АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

# Зноў воз наперадзе каня

**Не, няма ў нас апазіцыі, якая па-сапраўднаму змагалася б за перамогу на выбарах. На мой погляд, ёсць група людзей, якія хочуць удзельнічаць у чарговым спектаклі па сцэнарыі ўлады. Вось ужо і пра нейкі Кангрэс загаварылі, маўляў, толькі на ім можна вызначыць адзінага кандыдата ад дэмакратычнай грамадскасці.**

**Як быццам гэта выратаванне! Колькі за апошнія амаль два дзясяткі гадоў у краіне было выбараў і з адзіным кандыдатам, і з мноствам — вынік нулявы. Чаму? Таму што пасля 1994 года нармальных, чэсных выбараў у нас не было. Падобна на тое, што іх не будзе і на гэты раз. Хоць Ісуса Хрыста рабіце адзіным кандыдатам — не выйграе ён у Лукашэнкі з Ярмошынай. Таму ўся сённяшняя балбатня апазіцыі аб тым, хто ад яе будзе змагацца за пасаду прэзідэнта, — пустая трата часу.**

**Спадары Някляеў, Лябедзька, Дзмітрыеў, Рымашэўскі, Севярынец і ўсе іншыя лідары апазіцыі! Не займайцеся палітыканствам! Чаму вы не ставіце рубам пытанне аб тым, каб усё ж кардынальна змяніць Выбарчы кодэкс. Пакуль участковыя, раённыя і гарадскія камісіі будуць фарміравацца вертыкаллю, пакуль у іх склад не ўвойдуць прадстаўнікі кандыдатаў, ніякага кантролю за ходам галасавання і падлікам галасоў грамадскасць не даб'ецца. Лавіла ўлада рыбку ў мутнай вадзе — будзе лавіць і на гэты раз. Альтэрнатыўны А.Лукашэнку кандыдат патрэбны, як кажуць, для адводу вачэй.**

**Апазіцыя як быццам і рабіла заявы наконт неабходнасці ўнясення змен у Выбарчы кодэкс, ды ўсё марна. Што і казаць, мала сілёнак у дэмлідараў, таму да іх голасу і не прыслухоўваецца той жа Лукашэнка. Вось каб такія патрабаванні прынцыпова вылучылі дзясяткі тысяч рабочых трактарнага, аўтамабільнага заводаў, шахцёры Салігорска, сельгасмашаўцы Гомеля... Сваю пазіцыю маглі б агучыць і рашуча адстойваць навукоўцы, медыцынская, настаўніцкая супольнасць. Вялікая сіла — студэнцкая моладзь... Але ж з усімі імі трэба працаваць, мець штодзённыя кантакты, накіроўваць іх намаганні ў адно рэчышча. Адным словам, неабходна ісці ў народ, а не тусавацца ў офісах. Не дэмагогіяй займацца, а канкрэтнай работай.**

**Атрымліваецца, што апазіцыя зноў ставіць воз наперадзе каня. Замест таго, каб самымі рознымі спосабамі дабівацца правядзення чарговых прэзідэнцкіх выбараў на сапраўды дэмакратычнай аснове, яна ўжо сёння, бачыце, не супраць удзельнічаць у фальшывым палітычным спектаклі. Колькі разоў можна наступаць на адны і тыя ж граблі?! І што гэта за апазіцыя, якая падыгрывае ўладзе вось ужо амаль 20 гадоў, а не перамагае яе?**

**Сяргей КАРАЛЬЧУК.**

*Мінск.*

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## *Так і негры стануць беларусамі...*

Поспехі Дар'і Домрачавай у алімпійскім Сочы прыемна ўразілі. Але радасць ад гэтага ў мяне, так бы мовіць, палавінчатая. Бо дзяцінства знакамітай біятланісткі прайшло далёка ад Сінявокай, не ў Беларусі яна пачынала свой шлях у вялікім спорце.

Сёння ўсё часцей гучаць імёны спартсменаў, якія да Беларусі не маюць ніякага дачынення. Бразілец Рэнан Брэсан, канадзец Джэф Плат... Мяркую, з меркантыльных інтарэсаў яны сталі беларусамі, каб прадоўжыць сваю кар'еру на высокім узроўні. Не выключана, што адгуляюць сваё і паедуць на радзіму, дзе іх чакаюць бацькі і знаёмыя. А беларускія балельшчыкі хутка іх забудуць як іншаземцаў.

А дзе нашы, выгадаваныя на беларускай зямлі, спартсмены-беларусы?

**Аляксей Іванавіч БУЦЬКО.**

*Гродна.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *Пішы пра хакей, а болей — не смей!*

**Некаторыя замежныя журналісты (напрыклад, з фінскай тэлекампаніі YLE) адмовіліся ехаць у Беларусь на чэмпіянат свету па хакеі, бо беларускія арганізатары патрабуюць, каб рэпарцёры, якія прыбудуць па візах, выдадзеных для асвятлення чэмпіянату, не пісалі на іншыя тэмы, пра іншыя падзеі ў краіне.**

*У нас — хакей! Чэмпіянат*
*Найлепшых зборных свету!*
*Таму і рэпарцёраў шмат,*
*І многа ў іх імпэту.*
*Быў сярод іх і нейкі фін*
*З тамтэйшага канала*
*(Хакейных гэтакіх краін,*
*Накшталт Суомі, мала.*
*Там з клюшкай кожны трэці аж,*
*А можа, й палавіна).*
*За рэпартажам рэпартаж*
*Ішлі ў эфір ад фіна.*
*Турбот нам не прыносіў ён.*
*Дык і далей няхай бы*
*Плявузгаў штосьці ў мікрафон*
*Пра клюшкі ды пра шайбы.*
*Фін пачуваўся б, быццам пан,*
*Ад нас — падзякі словы.*
*Ды неяк ён у рэстаран*
*Прыйшоў у раз чарговы.*
*Там разнастайнае меню,*
*Нібы ў Парыжы дзесьці.*
*І дранікі*
*Упершыню*
*Фін папрасіў прынесці.*
*Хоць страўнік фіна не пусты,*
*Еў у шчакі абедзве,*
*І свой язык ад смакаты*
*Не праглынуў ён ледзьве.*
*Патоля целу і душы,*
*Таму настрой — на славу!*
*Для фінаў іншых фін рашыў*
*Даць рэпартаж пра страву.*
*Назаўтра ў рэстаран прыпёр*
*І здымачную групу.*
*Не меў ніколі рэпарцёр*
*Падобнага адлупу.*
*Даць не згадзіўся інтэрв'ю*
*Яму пузаты повар,*
*Прычым пазіцыю сваю*
*Тлумачыў ён тыпова:*
*— Пра ўсё, што падаём на стол,*
*Маўчаць наканавана.*
*На інтэрв'ю хай дасць дазвол*
*Дырэктар рэстарана.*
*Аднак дырэктар "глух і нем",*
*Ён інтэрв'ю не рады:*
*— Каб не было ў мяне праблем,*
*Дазвол патрэбны ўлады.*
*Па розных кабінетах фін*
*Хадзіў у выканкаме.*
*Напрыканцы адказны чын,*
*На жаль, развёў рукамі:*
*— Каб быў апеты дранік наш,*
*Не супраць я, паверце.*
*Але дазвол на рэпартаж*
*Вазьміце вы "наверсе".*
*Па ўладнай лесвіцы бядак*
*Пайшоў, нібы на неба.*
*І ўсе яму казалі так:*
*— Дазвол вышэйшы трэба...*
*І ўрэшце ўжо куды вышэй?*
*Дайшоў амаль да Бога...*
*— Ты асвятляй адно — хакей,*
*І больш пра нас — нічога.*
*Не забывай, навошта мы*
*Табе давалі візу.*
*Ва ўсім астатнім ты — нямы,*
*Каб не было сюрпрызу... —*
*Для фіна гэтакі адказ —*
*Як кулаком у зубы.*
*Імпэт ягоны конча згас,*
*Ужо й хакей нялюбы.*
*Прапаў былы душэўны ўздым,*
*І выгляд — нехлямяжы.*
*І сталі сумнымі зусім*
*У фіна рэпартажы...*
*А ўлада ад прынятых мер*
*Давольная нязнана:*
*Нічога лішняга цяпер*
*З тамтэйшага экрана*
*Не будзе "пляцкаць" нейкі фін,*
*Бо "перакрылі кранік".*

* * *

*А фін у сумку на ўспамін*
*Паклаў (ды і не ён адзін)*
*Перад ад'ездам дранік...*

З ЛІСТА

## *Старым ліхтары не патрэбны?*

У маленькіх навакольных вёсках каля пасёлка Нарач не гараць ліхтары. Гэта пры тым, што жывуць там у асноўным жанчыны сталага веку. У каго дзеці і ўнукі ў гарадах, у каго ўвогуле няма сваякоў... З хаты ўвечары страшна выходзіць, бо нічога не відаць, хоць вока выкалі. А старому чалавеку паваліцца — дык можна калекам застацца да канца сваіх дзён. Ды не дай Бог што здарыцца, дапамогі можна не дачакацца. Ліхтары ёсць, і яны ў працоўным стане, але толку з таго. Затое ў рэзідэнцыі кіраўніка краіны, дзе гадамі ніхто не з'яўляецца, ліхтары праз кожны метр. Ілюмінацыя пачынаецца, калі яшчэ не сцямнела, і адключаецца, калі ўжо сонейка на ўсю моц зіхаціць. Стаіць за плотам хата, а вакол яе так усё ззяе, што за кіламетры відаць. Дарэчы, раней там быў дзіцячы яхт-клуб, дзе хлопчыкі і дзяўчынкі маглі майстраваць караблі, займацца весламаннем, пакуль бацькі былі на рабоце. Шмат юнакоў прайшлі праз яго ў свой час і нармальнымі людзьмі выраслі. Нікому не прыходзіла ў галаву адабраць будынак у дзяцей, пакуль не спатрэбілася рэзідэнцыя... Такой колькасці ліхтароў хапіла б на ўсе навакольныя вёскі. Але хіба нехта думае пра нашых старых?

**Станіслаў ЗДАНОВІЧ.**

*Мінск.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Аднапакаёўка за 280 долараў*

***Ці праўда, што арэнда жылля ў беларускай сталіцы рэзка знізілася?***

***Г.М.ПАЛЯШЧУК, г.Салігорск.***

Так, сапраўды, кошты на арэнду кватэр у Мінску знізіліся, але хутчэй *"крыху"*, а не *"рэзка"*.

— У спальным раёне Мінска можна знайсці аднапакаёвую кватэру за 280 долараў, у цэнтры мінімальны кошт за такую будзе 350 долараў, — распавяла намеснік дырэктара па арэндзе жылля агенцтва "Твая сталіца" **Валянціна Сянчыхіна.** — Зніжэнне цэн адбылося таму, што кватаранты зразумелі: яны гаспадары становішча. На рынку цяпер прапаноў шмат, таму ўладальнікам кватэр прыходзіцца ісці на саступкі.

Паводле слоў Валянціны Сянчыхінай, попыт на арэнду кватэр зараз значна меншы, чым у гэты ж перыяд 2013 года.

— Адмоўныя дысбалансы ў эканоміцы заўсёды адбіваюцца на рынку арэнды, — упэўнены начальнік аддзела арэнды агенцтва нерухомасці "Квадратны метр" **Міхаіл Рагаўцоў.** — Адбываецца некалькі супярэчлівых працэсаў. Адны гаспадары разумеюць, што зараз сітуацыя не самая добрая, таму кошты на арэнду кватэр не павышаюць і трымаюць старыя. Хтосьці нават трохі скідвае арандатарам плату. Іншыя неабгрунтавана падымаюць цэны напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі.

РЭЗАНАНС

# ...Каб знікла «праблема Ялінкі Салаўёвай»

На працягу некалькіх гадоў разам з "Народнай Воляй" з хваляваннем сочым за лёсам вядомай у Беларусі дзяўчынкі Ялінкі Салаўёвай. Вось і чарговая сумная інфармацыя пра яе самотнае навучанне з'явілася ў газеце за 7 сакавіка.

Адказ аб прычыне становішча Ялінкі ведаюць усе бацькі-сяляне, усе бацькі-інтэлігенты і нават бацькі-алкаголікі. Ён такі: "А раптам мой сын (мая дачка) будуць паступаць ва ўніверсітэт, у інстытут? Там спрэс выкладанне на рускай мове..." Так, прычына самотнасці Ялінкі вядома ўсім — гэта фактычна татальная забарона вышэйшай адукацыі на беларускай мове. Менавіта такое слова —"забарона", таму што вы не знойдзеце вышэйшай навучальнай установы, дзе хаця б 50 працэнтаў студэнтаў вучацца па-беларуску. Тым нешматлікім навучэнцам, якія закончылі беларускамоўныя школы і гімназіі, якія яшчэ, на дзіва, дзенідзе засталіся і, здаўшы экзамены, паступілі ў ВНУ, даводзіцца моўчкі перавучвацца. І выбару ў іх пасля паступлення ў ВНУ няма.

І не трэба тут казаць пра тыя ганебныя 0,2 працэнта (ці 600 чалавек), якія ўсё ж такі, здаецца, вучацца па-беларуску: гэта, напэўна, студэнты Універсітэта культуры, дзе вывучаецца пераважна беларускі фальклор (яны яшчэ беларускі фальклор па-руску вучылі б, зусім смешна было б).

І не трэба казаць, што "при высшем образовании по-белорусски мы отстанем от мировых тенденций в науке", таму што давядзецца адказваць на пытанне: а чаму ж чэхі, палякі, фіны і іншыя не адстаюць, маючы вышэйшую адукацыю на нацыянальных мовах, а наадварот, атрымліваюць дыпломы, якія, у адрозненне ад нашых, прызнаюцца ў свеце?




Калі б існавала беларускамоўная адукацыя ў ВНУ, то, мы ўпэўнены, у беларускамоўныя школы і дзіцячыя садкі стаялі б чэргі без усякай "тлумачальна-выхаваўчай працы", як гэта адбываецца, напрыклад, у краінах Балтыі, дзе нават рускія жыхары пры наяўнасці рускіх школ аддаюць дзяцей у нацыянальныя школы, таму што бачаць перспектыву (у тым ліку і ў вышэйшай адукацыі), а не таму, што іх нехта "заставляет".

Так, цяпер, калі відавочна сітуацыя гвалтоўнай маргіналізацыі беларускай мовы, вырашыць праблему беларускамоўнай адукацыі магчыма толькі адміністрацыйнымі метадамі. Роднае, нацыянальнае слова павінна загучаць літаральна ва ўсіх вышэйшых навучальных установах. Няхай спачатку будзе 20—30 працэнтаў студэнтаў з беларускамоўным навучаннем, праз пяцьшэсць гадоў гэты паказчык дасягне 40—50 працэнтаў, а там, глядзіш, і большасць моладзі будзе атрымліваць адукацыю на беларускай мове. І сама па сабе знікне "праблема Ялінкі Салаўёвай".

**С.Б.АЛЯКСАНДРАВА, інжынер.**
**В.Я.КРЭМЕНЬ, архітэктар.**
**В.Ю.САРНАЦКАЯ, архітэктар.**
**І.Н.АЛЯКСАНДРАВА, пенсіянерка.**
**Б.І.АЛЯКСАНДРАЎ, архітэктар.**

*Мінск.*

РАДАВОД

# Як я знайшла сваяцтва з Якубам Коласам

Напэўна, усе мы малявалі ў школе сваё маленькае генеалагічнае дрэва. І кожны з нас марыў больш даведацца пра свой радавод, адшукаць свае карані, зразумець, хто мы ёсць.

Доўгі час я тапталася на месцы, пакуль у жыцці не з'явіўся інтэрнэт. Магчымасці пошукаў пашырыліся. А, пацягнуўшы за нітачку, крыху разматала і клубочак.

Справа ў тым, што бабуля — татава мама — увесь час распавядала нам пра тое, як у гады ліхалецця, калі яе сям'ю напаткала бяда і прыйшлі з арыштам, каб закінуць у сталінскія лагеры, яе родныя звярталіся да Якуба Коласа з просьбай дапамагчы ўратаваць маладую кабету. Паводле яе слоў, пісьменнік быў пляменнікам яе бабулі, а ёй — дзядзькам.

Колас нібыта нічым не дапамог. І доўгі час я, малая, слухаючы гэтыя ўспаміны-расповеды, крыўдавала на яго, лічыла прыстасаванцам і, разглядаючы ў буквары партрэты Якуба Коласа і Янкі Купалы, якія былі размешчаны на адным развароце старонак, думала пра тое, што лепей бы сваяком апынуўся Купала. Пакуль, пасталеўшы, не зразумела: а што мог зрабіць чалавек супраць крывавай ненажэрнай машыны рэпрэсій, перад якой былі роўнымі ўсе, і ніхто не мог пазбегнуць яе кіпцюроў, нават тыя, хто ёй служыў?.. Ніхто не глядзеў — ці ты вясковы цемрашал, ці знакаміты літаратар з дэпутацкім мандатам — грэблі ўсіх.

Аповед аповедам, але, акрамя бабуліных слоў пра сваяцтва, іншага доказу мы не мелі, а таму любое сцвярджэнне пра яго доўгі час адмаўлялі. Ды і не столькі яно было важным, колькі проста цікавым. І вось аднойчы, абапіраючыся на тое, што бабуліна бабуля (а значыць, мая прапрабабуля) Караліна Казіміраўна была з роду Міцкевічаў і з'яўлялася роднай цёткай Міхаілу Канстанцінавічу, я ўвяла ў пошукавік інтэрнэту пытанне аб генеалагічным дрэве Якуба Коласа. І патрапіла на спецыяльны сайт, прысвечаны радаводам знакамітых і ўплывовых сямей, які вядзе цудоўны чалавек Міхаіл Калінін. Дзе і знайшла пацвярджэнне ўсяму, пра што ўзгадвала мая бабуля. Я звязалася са спадаром Калініным, і з таго часу мы разам — знаходзячыся ля розных камп'ютараў і на вялікай адлегласці адзін ад аднаго, але аб'яднаныя сецівам — пачалі шукаць свае карані. Справа ў тым, што ён нейкае сваяцтва з намі таксама мае, а значыць, магчыма, нейкі родзіч.

Адначасова я колькі часу хадзіла следам за сваёй бабуляй з аркушамі паперы ды асадкай у руках, запісваючы яе ўспаміны, якія іншым разам былі настолькі заблытанымі, што даводзілася чакаць маму, якая прыводзіла гэтыя запісы ў храналагічны і пайменны парадак. Таму коратка выкладаю тут тое, што атрымала ў выніку. Можа, пачытаўшы, той-сёй зразумее, як гэта цікава — даведацца пра людзей, без якіх цябе проста не было б, якія твая часцінка. Гэта лепш за любы раман.

Ну дык вось. Караліна Казіміраўна Міцкевіч, родам з Мікалаеўшчыны, была каталічкай, з сям'і ляснічага. Выйшла замуж таксама за ляснічага Амброжыя Дземідовіча, які быў праваслаўным. Аднак Караліна ў сваёй прыхільнасці да касцёла была настолькі моцнай, што прымусіла мужа прыняць каталіцтва. Яны нарадзілі двух сыноў, Міхала і Адама — бацьку маёй бабулі, а таксама дзвюх дачок — Эмілію і Юзэфу. Апошняя выйшла замуж за Войніча. І міжвольна тут узнікла думка: а ці не маюць нашы беларускія Войнічы агульныя карані з Міхаілам Войнічам, мужам знакамітай пісьменніцы Этэль Ліліян Войніч, аўтара "Авадня"?

Думка, якая паўстала ў адзін шэраг з пытаннем, а ці не маюць нашы Міцкевічы агульнага кораня з Адамам Міцкевічам, выхадцам з Навагрудчыны. Гіпотэза пра тое, што два выбітныя пісьменнікі недзе ў глыбіні маюць адно калена сваяцтва, усё ж такі існуе. І калі гэта насамрэч так, ды яшчэ і Войнічы дадаюцца, то цікавае ў нас атрымліваецца родавае дрэва.

Эмілія так і засталася на ўсё жыццё ў дзеўках, а гісторыя з бабуліным дзядзькам Міхалам — цяжкая, цёмная і сумная. У падрабязнасці ўлазіць не буду, пазначу толькі, што на доўгія-доўгія гады сувязь з ім была страчана. Пра яго ніхто нічога не ведаў. Пакуль з дапамогай спадара Калініна мы не высветлілі, што ў нашага дзядзькі быў сын, таксама Міхал, які без звестак знік у вайну.

Караліна і Амброжый пераехалі ў вёску Завітую Нясвіжскага павета, дзе на мясцовым пагосце блізу вёскі Квачы і былі пахаваны. Там жа знаходзяцца магілы Эміліі і Адама.

Адам таксама, як і бацька, быў ляснічым. Ажаніўся ў даволі сталым узросце, было ўжо за сорак, калі ён узяў у жонкі рана асіроцелую Вікторыю, дачку некалі ўплывовага ў Вялікім Княстве шляхціца Віктара Туміловіча, які праз сваю цягу да азартных гульняў страціў маёнтак, бібліятэку, іншую маёмасць. Будучы ў сям'і адзінай дачкою, Вікторыя не атрымала належнай адукацыі, ды і спадчыны ёй не дасталося ніякай. Таму змушана была пайсці за чалавека, амаль у два разы старэйшага за яе, цёмнага ляснічага, у глуш і нерась. Лёс яе братоў крыху лепшы — з нашчадкамі аднаго з іх, які з'ехаў у Польшчу, мы зараз падтрымліваем сувязь.

І невядома, добра гэта ці дрэнна, што мой продак Віктар Туміловіч быў заўзятым іграком і яму моцна не пашчасціла. Калі б гэтага не адбылося, у ягонай дачкі быў бы зусім іншы лёс, і яна зрабілася б жонкай якога-небудзь шляхціца, чалавека свайго сацыяльнага кола. І былі б зусім іншыя дзеці ды нашчадкі. Але магло б стацца і так, што сям'я Туміловічаў апынулася б тады рэпрэсаванай камуністамі. Хто яго ведае...

Так перапляліся паміж сабой галінамі патомныя ляснічыя Міцкевічы і Дземідовічы і некалі ўплывовая, не апошняя ў Вялікім Княстве, але збяднелая шляхта Туміловічы. З дапамогай спадара Калініна я здолела паглыбіцца ў сваім радаводзе ад бабулінага таты на пяць кален — а значыць, мая дачка Міхалінка — гэта ўжо дзясятае пакаленне Міцкевічаў-Дземідовічаў.

А ад бабулінай мамы кален знайшлося столькі, што, падлічыўшы, атрымалася: мая Міхалінка — ужо дваццатае пакаленне Туміловічаў—Дземідовічаў.

Што ж тычыцца радаводу майго дзядулі, то тут усё значна працей. Прынамсі, настолькі, наколькі можна было даведацца. Вельмі шкадую зараз, што ў свой час не вельмі і прыслухоўвалася да яго скупых аповедаў ды не распытвала, пакуль ён быў жывы. Паводле радаводу майго дзядулі вынікае, што ён паходзіў з сялян, але і яны былі не простыя.

Зямля, на якой зараз стаіць дом у вёсцы Квачы, дзе нарадзіўся мой тата, была набыта яшчэ прадзедам майго дзеда ў пана. Надзел, якім гэты прадзед валодаў, быў вельмі вялікім — паласа цягнулася ад самай шашы да рэчкі Вуша, што некалі была глыбокай, паўнаводнай і чысцюткай. Але вось жа парадокс — зямлю гэтую нам давялося набываць яшчэ двойчы: за савецкім часам, калі камуністы, праводзячы калектывізацыю, забралі зямлю пад калгас, а дзеду пакінулі толькі 15 сотак з таго, што ён некалі меў, дый зараз, калі бабулі патрэбна было ўступаць у спадчыну пасля смерці мужа. Такія парадкі — набывай ва ўлады тое, што адвеку належыць табе...

Браты майго прадзеда Фёдара Вінцэсь і Антэк паводле адных звестак служылі ў спецыяльным войску імператара Мікалая II (не ведаю, як называлася яно тады, аналаг спецназа), па другіх — адзін служыў, а другі, як і бацька майго дзеда, быў селянінам. Але тое, што яны абодва пасля Другой сусветнай прадалі сваю долю зямлі свайму трэцяму брату ды рванулі ў Амерыку — гэта дакладна. І абодва там згінулі. Ад кагосьці з іх потым прыйшла неблагая спадчына майму дзеду і ягонаму брату, а гэта азначала толькі адно: гэтыя галіны радаводу былі абрублены. Дарэчы, на гэтую спадчыну дзед мой здолеў набыць сваім сынам па два матацыклы і сабе адзін.

Мама майго дзеда, якую звалі Зося, у дзявоцтве насіла такое ж самае прозвішча, як і яе будучы муж, — Азарка. Гэта можа азначаць тое, што сяляне належалі да маёнтка аднаго пана, з аднае мясцовасці. Радню ж мы маем па бабе Зосі надта вялікую — паўсяла, куды ні глянь — сваяк. Ды праз гэта і пайшлі яны ланцугом па этапах у 1949 годзе...

Да таго ж прадзед бабулі быў прыслужнікам у панскіх пакоях, лакеем, з-за чаго і мянушка цэлага сямейства была Лёкаі, Лекайчукі. Але вось ці іх гаспадаром быў барон Гарцінг (а ён, па звестках, валодаў маёнткам у Завушшы, ды на пагосце ягоны курган стаіць), ці прыслугоўвалі продкі самім князям Радзівілам — гэта застаецца пакуль што нявысветленым.

Пакуль мне зразумела толькі адно: прозвішча, якое маю я з дачушкай, патомнае, не менш значнае, чым шляхетнае. Хаця было і такое, што дзядулі майму ягоны камандзір на фронце прапаноўваў змяніць прозвішча на "лепшае", больш гучнае ды прыгожае. Напрыклад, Азаронак, Азаранка ці Азараў. Але дзядуля не згадзіўся. Так што Азарка я карэнная.

Вось такі радавод атрымаўся ў мяне. Даволі змястоўны. Я яго складаю для дачкі, каб Міхалінка ведала свае карані.

Дзякуй вялікі спадару Калініну за грунтоўную і карысную працу, якая натхніла і заахвоціла рухацца ў пошуках яшчэ далей, яшчэ глыбей! Я пачала гэты пошук і ўсіх заклікаю.

**Настасся АЗАРКА.**

*г.Нясвіж.*

ЕСТЬ ВОПРОС!

## *А почему не было Патриарха Кирилла?*

*Я сидел у телевизора, когда Владимир Путин выступал с речью по поводу принятия в состав Российской Федерации Крыма. На него смотрел, на публику, которая ему хлопала. Обратил внимание на то, что в зале не было человека, который просто обязан был там быть. Нет, я не про Виктора Януковича, хотя если это правда, что он просил Путина ввести в Крым войска, то и он обязан был присутствовать. Я — про Патриарха Кирилла.*

Вот его-то и не было. Были мусульманские священнослужители, лидеры иудейской общины, узнал я и митрополита Крутицкого и Коломенского Ювеналия, а вот Патриарха Кирилла не было.

Да, Россия по-грабительски приобрела Крым, но она потеряла Украину, она потеряла духовную связь с "сердцем городов русских" — с Киевом, с центром русского православия, со своим духовным истоком и оплотом. Никакой Крым этого не сумеет компенсировать. Видимо, понимает это Патриарх Кирилл, потому и "не смог" присутствовать на церемонии.

**Василий ТОЛСТЫКО.**

*Минск.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
8 КРАСАВІКА 2014 г.

РАЗБОР ПОЛЕТОВ

# Потанцуем?

*Экс-глава Белгосцирка **Татьяна Бондарчук** больше не возглавляет Белорусскую федерацию танцевального спорта (БФТС) — она вошла в состав правления недавно зарегистрированной общественной организации "Белорусский альянс танцевального спорта".*

*При этом неожиданно выяснилось, что БФТС, которой последние годы руководила Бондарчук, имеет немалую задолженность перед налоговыми органами: больше 110 тысяч долларов в эквиваленте!*

*Кто будет выплачивать долг? Почему чиновники Национального олимпийского комитета не хотят признавать старейшую танцевальную организацию? И какое будущее ждет белорусский танцевальный спорт? Эти и другие вопросы "Народная Воля" обсудила с заслуженным работником культуры Беларуси, худруком танцевального клуба "Мара" **Лидией Кац-Лазаревой** и главным тренером танцевального клуба "Сигма" **Александром Козыро**.*

**— Лидия Петровна, Александр Николаевич, насколько я знаю, с конца прошлого года на проверке в Минюсте находятся документы о проведении конференции БФТС, на которой было решено ликвидировать организацию…**

— Окончательного вердикта Минюста еще нет. Но это ведь была далеко не единственная отчетно-выборная конференция ОО "БФТС". В 2013 году их прошло несколько. Так, в июне минувшего года должна была состояться очередная отчетно-выборная конференция БФТС. Планировалось, что она пройдет в здании Белгосцирка. Но накануне на одном из новостных сайтов появилась новость, что в отношении Татьяны Бондарчук возбуждено уголовное дело...

**— А затем на сайте БФТС было опубликовано письмо Бондарчук о переносе конференции на более поздний срок — в связи с резко ухудшившимся состоянием ее здоровья.**

— Да, это было вечером. А на конференцию уже выехали делегаты со всей страны. К тому же полномочий на отмену конференции у Татьяны Бондарчук не было. По уставу организации, председатель не имеет права отменить или перенести конференцию, это прерогатива руководящего органа — президиума федерации. Поэтому около 10 часов утра возле цирка собрались больше 50 делегатов. В здание цирка нас не пустили: на служебном входе висело объявление о переносе мероприятия. Мы поехали в ДК МТЗ, где решили поставить на голосование вопрос о проведении конференции. Большинство высказалось за то, чтобы конференция БФТС все-таки состоялась. Те, кто был против этого решения, просто встали и ушли. В конечном итоге эти люди организовали "Белорусский альянс танцевального спорта".



**— Давайте обо всем по порядку. Если не ошибаюсь, Минюст не признал ту конференцию легитимной.**

— Да. При этом нас очень мягко попросили провести повторный съезд. В итоге две инициативные группы из членов БФТС (мы и сторонники Татьяны Бондарчук) начали параллельно готовить две конференции одной организации.

**— Выходит, случился раскол?**

— В принципе, да. С нашей стороны было около 50 человек, с другой — чуть больше десятка.

**— А сколько всего членов насчитывает БФТС?**

— Около 2100. Но у нас квота представительства на конференции — один делегат от 30 человек.

Готовясь к конференции, мы действовали максимально открыто, информировали о своих действиях и членов БФТС, и Минюст. При этом наша инициативная группа была полностью изолирована от официального сайта танцевальной федерации bydsf.com, и решением еще старого состава президиума БФТС мы вынуждены были создать другой сайт — bydsf.by, на котором до сих пор вывешивается вся оперативная информация о наших действиях. Офис БФТС располагался в цирке, но нас туда не пускали. Позже исполняющий обязанности директора цирка сказал нам, что договор аренды по офису был заключен до 1 октября, и получилось так, что к этому времени легитимных органов и председателя БФТС нет, договор о продлении аренды подписать некому и офис в цирке у нас пропал, так же как и юридический адрес. Куда вывезли все документы и оргтехнику — мы не знаем. Нас об этом никто в известность не поставил.

Сейчас БФТС — это две инициативные группы, у одной из которых находятся все документы, печать, они до сих пор пользуются электронной почтой федерации.

Мы неоднократно пытались наладить контакт с Татьяной Бондарчук, просили ее помочь выйти из кризиса, в котором внезапно оказалась БФТС. Многие из нас стояли у истоков развития танцевального спорта в Беларуси, и нас пугало, что организация может развалиться. Но все попытки оказались безуспешными...

**— Тем не менее 13 октября 2013 года состоялась повторная конференция БФТС.**

— Да. И, как нам кажется, так тщательно мы не проводили ни одну конференцию за все 20 лет существования БФТС! Но сторонники Бондарчук пожаловались, что их якобы не уведомили о проводимом мероприятии, и Минюст *"по формальному признаку"* снова не признал конференцию легитимной.

**— И 17 декабря минувшего года другая инициативная группа провела еще одну конференцию БФТС.**

— Да, но теперь уже нас как членов БФТС не уведомили о том, где и в какое время она проходила. А бывшего руководителя БФТС Михаила Павлинова, который со всеми документами в качестве делегата пришел на это мероприятие, в зал просто не пустили.

**— Уже прошло немало времени. Как думаете, почему Минюст до сих пор не принимает решение о легитимности этой конференции?**

— Точно не известно. Видимо, затребовали какую-то дополнительную информацию, документы, поэтому ситуация висит в воздухе. Одним словом, решение о судьбе БФТС пока не принято. И каким оно будет — предугадать сложно. Дело в том, что за последние месяцы выяснились некоторые любопытные детали. Например, накануне первой конференции ревизионной комиссии для проверки не были предоставлены финансовые документы. Мы сначала пытались решить этот вопрос внутри организации — не вышло, затем обратились в милицию и налоговую инспекцию. В итоге налоговая внесла БФТС в план проверок на второе полугодие 2013 года. И по результатам проверки выяснилось, что БФТС задолжала в госбюджет больше миллиарда белорусских рублей! Но долгое время об этом акте налоговой рядовые члены БФТС не знали. Возможно, кому-то хотелось бы, чтобы БФТС признали банкротом, организацию ликвидировали по решению конференции, а имущество федерации и денежные средства, оставшиеся на счету, могли бы пойти в счет погашения долга.

**— У федерации так много имущества?**

— Нет даже куска своего паркета! Но члены БФТС уже заплатили взносы за 2014 год, а это значит, что они снова должны собрать конференцию, избрать руководство и решить судьбу организации. При этом мы можем написать заявление в милицию или Следственный комитет с просьбой взыскать сумму долга с виновного лица. Некоторые чиновники Минюста, конечно, не ожидали такого шага. И даже просили нас одуматься и помочь ликвидировать БФТС.

Насколько нам известно, сейчас правоохранительные органы занимаются проверкой финансовой деятельности БФТС. В Департамент финансовых расследований уже приглашали и Татьяну Бондарчук, и бывших руководителей федерации Михаила Павлинова и Бориса Попова.

**— Получается, что предшественники Бондарчук тоже могут оказаться причастными к возникновению долга?**

— Не исключено, что кому-то и хотелось бы, чтобы так вышло...

**— В первое время вы поддерживали Татьяну Бондарчук, которая была назначена главной по танцевальному спорту, а затем ваши взгляды разошлись… В какой момент отношения испортились?**

— Трудно сказать... Мы обсуждали, по какому пути должна развиваться БФТС. Она нас выслушивала, назначала время следующей встречи. Но потом встречи откладывались, и в конце концов она заявила, что не нуждается в наших советах и пойдет по другому пути.

**— Вас обвиняют в том, что вы пытаетесь *"дискредитировать БФТС как на международном уровне, так и в стране"*…**

— Получается, что почти все, кто имеет авторитет в танцевальном спорте, сейчас дискредитируют БФТС! Ведь все основоположники танцевального спорта находятся на нашей стороне!

**— Чуть больше двух месяцев назад появилась новая общественная организация — "Белорусский альянс танцевального спорта", которую возглавила депутат Палаты представителей Елена Шамаль. И теперь на сайте Национального олимпийского комитета не БФТС, а именно "Альянс" значится в списке федераций…**

— Да, 17 января этого года организацию зарегистрировали, и фактически в конце января она уже появилась на сайте НОК как единственная организация, развивающая танцевальный спорт на территории Республики Беларусь. Спрашивается: что они за две недели развили?

По закону о спорте, статус национальной может быть присвоен федерации, входящей в состав международных спортивных объединений. БФТС входит в международную федерацию, на ее на сайте НОК уже нет.

Кстати, показательный момент: в правление "Белорусского альянса танцевального спорта" входит 22 человека, из них 15 — чиновники.

**— Знаю, что в начале марта в здании НОК при участии чиновников Минспорта обсуждали перспективы развития танцевального спорта в Беларуси. Прессу там видеть не желали, а вас пригласили?**

— Приглашали по одному человеку от клуба. И когда мы попросили прийти на встречу вместе с юристом, отказали. В итоге с нашей стороны на этом "круглом столе" присутствовали трое — Владимир Парахневич, Михаил Павлинов и Марина Баслык. Но самое интересное в другом. В управлении спорта Мингорисполкома неожиданно выяснилось, что тех, кому отказали в регистрации, почему-то внесли в список участников "круглого стола"!

**— Вы встречались с руководительницей "Альянса" Еленой Шамаль?**

— Да, несколько раз. Она сказала, что хочет, чтобы в танцах все работали по одним правилам и законам. Мы это только поддерживаем! Но она заинтересована в том, чтобы и спортсмены, и тренеры вступали в ее организацию, а мы хотим сохранить БФТС.

**— А как Международная федерация, членом которой является БФТС, реагирует на всю эту ситуацию?**

— В силу того, что нам отказали в доступе к электронной почте, официальной информации, финансовым документам, получается, что и от имени "Альянса", и от имени БФТС переговоры с федерацией ведут одни и те же люди. Доходит до абсурда: "Альянс" номинирует пары своей организации от имени БФТС!

**— Тем не менее сегодня в Беларуси танцевальные чемпионаты проводятся и под эгидой БФТС, и под эгидой "Альянса". Недавно они приглашали на соревнования во Дворец спорта, вы — в "Чижовка-Арену".**

— У нас, правда, участников было в три раза больше. К тому же у нас взнос за участие в соревновании 200 тысяч с пары, а там — три с половиной базовые величины.

**— Александр Николаевич, Лидия Петровна, а каким вы видите будущее танцевального спорта?**

— Пока мы решили зарегистрировать новую организацию — Белорусскую федерацию танцев. Мы уже провели учредительный съезд, сейчас документы рассматривает Минюст. Если все получится, мы можем попроситься под крышу Министерства культуры. Или вообще уйти в другую Международную федерацию танцев. И в НОК, и в Минспорта знают о наших намерениях. Правда, если мы уйдем со всеми своими спортсменами, им тогда танцевать будет не с кем. А в будущем мы планируем создать Республиканский танцевальный союз, который объединит все танцевальные объединения страны...

Одним словом, мы еще станцуем!

**Марина КОКТЫШ.**

*Лидия Кац-Лазарева и Александр Козыро.*

---

МЕДДАВЕДКА

## Чым менш калорый, тым даўжэй жыццё

*Дастаткова скараціць сутачны прыём калорый усяго на 10%, каб значна павялічыць працягласць жыцця і знізіць рызыку развіцця хвароб.*

25 гадоў амерыканскія навукоўцы вывучалі ўздзеянне дыеты на працэс старэння ў малпаў. Высветлілася, што абмежаванні ў харчаванні істотна зніжаюць рызыку ранняй смерці і з'яўлення ўзроставых хвароб.

Усе эксперыменты навукоўцаў даказваюць, што скарачэнне колькасці калорый пры абавязковым атрыманні ўсіх неабходных чалавеку пажыўных рэчываў здольна павялічыць працягласць жыцця чалавека да 40%. Цяпер аўтары даследавання спадзяюцца, што вынікі іх працы будуць пакладзены ў аснову стварэння новых лекаў, якія аказваюць на арганізм чалавека такое ж дабратворнае ўздзеянне, як і скарачэнне каларыйнасці.

---

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Былы суддзя 14 гадоў правядзе ў калоніі

*Калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда Беларусі абвясціла прысуд па справе былога намесніка старшыні суда Кастрычніцкага раёна Магілёва **Магамеда Умарава** і адваката **Анатоля Гоманава**. Яны абвінавачваліся ў карупцыйных злачынствах, звязаных з забеспячэннем за ўзнагароджанне вынясення "патрэбных" прысудаў.*

Магамед Умараў асуджаны да 14 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і забаронай займаць пасады ў судовых і праваахоўных органах тэрмінам на пяць гадоў.

Анатолю Гоманаву Вярхоўны суд прызначыў 1 год абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу. Гоманаў апраўданы па ч.1 арт.209 (завалоданне маёмасцю шляхам злоўжывання даверам, махлярства).

Прысуды Вярхоўнага суда абскарджванню ў касацыйным парадку не падлягаюць.

---

ЧУЛІ?

## Купляем кітайскае!

*Беларусы ўсё часцей заказваюць тавары з Кітая па інтэрнэце: у 2013 годзе колькасць паштовых адпраўленняў з Паднябеснай павялічылася ў 10 разоў. Пра гэта паведаміла намеснік генеральнага дырэктара па камерцыйных пытаннях РУП "Белпошта" **Таццяна Гвоздзева**, выступаючы на галіновай канферэнцыі eTrade.*

Дарэчы, не толькі "Белпошта" фіксуе актыўнасць у сферы інтэрнэт-шопінгу. Паводле звестак мытні, у 2013 годзе ў Беларусь з-за мяжы прыйшло 6,73 мільёна паштовых адпраўленняў. Гэта на 50% больш, чым годам раней. Як паведаміў намеснік начальніка Мінскай рэгіянальнай мытні па арганізацыі мытнага афармлення і кантролю **Віктар Нікіцюк**, на тавары з інтэрнэт-крам прыпадае каля 60—70% у агульным аб'ёме паштовых адпраўленняў, якія паступаюць у Беларусь.

---

НАПЯРЭДАДНІ!

## Канцэрт «Ляпісаў» каля рэзідэнцыі прэзідэнта

***Падобна на тое, што Сяргей Міхалок не жартаваў — з 1 верасня "Ляпіс Трубяцкі" будзе распушчаны. На сайце гурта расклад канцэртаў заканчваецца сярэдзінай жніўня.***

Нагадаем, Міхалок нядаўна заявіў: *"Я зняў з сябе рок-карону, мантыю найвялікшага рок-клоўна ў гісторыі, і так, я распускаю гурт "Ляпіс Трубяцкі". Нібы цяжкі камень зняў я са сваёй шыі".* Паводле яго слоў, самае пошлае, што можа адбыцца з рок-гуртом, — 25-гадовы юбілей.

У Беларусі веснавых і летніх канцэртаў апальнага гурта не будзе. Беларусы з ліку прыхільнікаў гурта апошнім часам прызвычаіліся ездзіць на "Ляпісаў" да суседзяў — у Літву, Украіну, Расію. Праўда, нядаўна некалькі канцэртаў "Ляпіса Трубяцкога" ў Расіі былі адменены — з-за падтрымкі музыкантамі Майдана.

Бліжэйшае выступленне Міхалка і яго каманды — у межах канцэрта "Салідарныя з Беларуссю" вечарам **11 красавіка** на вуліцы Кракаўскае прадмесце ў Варшаве, непадалёк ад рэзідэнцыі прэзідэнта Польшчы. Яшчэ ёсць магчымасць узяць квіткі на аўтобус ці цягнік да польскай сталіцы.

Але калі не атрымліваецца — не перажывайце. Тэлеканал "Белсат" — у дапамогу!

**11 красавіка ў 21.50 паводле беларускага часу на старонцы канала belsat.eu можна паглядзець анлайн-трансляцыю канцэрта "Ляпісаў"**. Як і на кнопцы "Белсата" ў жывым эфіры праз спадарожнікавую антэну.

Акрамя "Ляпіса Трубяцкога" ў канцэрце возьмуць удзел беларускі гурт "Amaroka", польскі "Maleo Reggae Rockers" і ўкраінскі "Kozak System".

Першы канцэрт "Салідарныя з Беларуссю" быў арганізаваны ў 2006 годзе, і з тых часоў ён стаў праходзіць увесну ў Варшаве. Перапынак быў толькі ў 2010 годзе ў сувязі з гібеллю польскага прэзідэнта і высокіх дзяржаўных асоб у авіякатастрофе пад Смаленскам.

"Белсат" — бясплатны незалежны тэлеканал на беларускай мове, які транслюецца праз спадарожнікі "Astra 4A" (4.8° E), Eutelsat 33 (33° E) і ў інтэрнэце на www.belsat.eu. У эфіры "Белсата" штодня з 19-й гадзіны свежыя навіны і каментары, а таксама дакументалістыка, культурніцкія і забаўляльныя праграмы, мастацкія фільмы, серыялы.



ДАРЭЧЫ

*Прэс-аташэ гурта «Ляпіс Трубяцкі» Аляксандр БЕРГЕР:*

## «У Харкаве ўся зала хорам спявала гімн Украіны»

*На мінулым тыдні скончыўся тур гурта "Ляпіс Трубяцкі" па гарадах Усходняй Украіны. Прэс-аташэ "Ляпісаў" Аляксандр Бергер на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку" падзяліўся ўражаннямі ад канцэртаў:*

"Для мяне, канечне, украінскі тур "Ляпісаў" стаў выпрабаваннем. Пры тым што я ў туры з групай не езджу і ў гэты раз таксама мірна сядзеў у сябе ў Краснагорску. Але я вельмі баяўся канцэртаў на ўсходзе Украіны. Я баяўся, што будуць абвінавачванні ў "майданутасці "або зрэжысаваная народная незадаволенасць, забароны, правакацыі — усё тое, што мы ўжо бачылі ў Расіі.

А яшчэ я рэальна баяўся, што на якім-небудзь канцэрце хто-небудзь пачне страляць або кіне святлошумавую гранату, што ахову і міліцыю падкупяць і яны адыдуць у бок, калі якія-небудзь "цітушкі" палезуць на сцэну, каб лінчаваць Міхалка.

Я пісаў калегам істэрычныя лісты, патрабаваў адмяніць гэтыя канцэрты ці хаця б наняць "стопіцот" узброеных ахоўнікаў, забараніць на канцэртах напоі ў шкляной і бляшанай тары — каб не кінулі ў хлопцаў бутэлькай або слоікам.

Я рэальна баяўся. І нават не ведаю, чаго больш — што група пацерпіць фізічна або што ў якім-небудзь Данецку зала пачне скандзіраваць "Расія! Пуцін!", а Міхалку прыйдзецца гэта праглынуць.

Але здарылася незразумелае і дзіўнае. У Харкаве ўся зала хорам спявала гімн Украіны, у Данецку быў солд-аўт, у Днепрапятроўску стаяла кіламетровая чарга на ўваход, а народ калі нешта і скандзіраваў, дык "Пуцін — пі...ас!".

Мне скажуць, што на "Ляпісаў" прыйшлі нейкія "спецыяльныя" людзі, такія ж "майданутыя", як яны самі. Вось наўрад ці. Або гэтых людзей нават на ўсходзе рэальна шмат (а не як нам кажа тэлевізар). Але, як бы там ні было, я шчаслівы, што гэты тур праходзіць не так, як я думаў.

Дзякуй, Палтава, Луганск, Харкаў, Данецк, Днепрапятроўск, Адэса! Дзякуй, Усходняя Украіна! Вы — лепшыя!"

---

АФІЦЫЙНА

## Крэдыты на жыллё не патаннеюць

*Нацбанк плануе распрацаваць сістэму будзберажэнняў да канца года.*

*"Яна прадугледжвае, што грамадзянін, які жадае мець жыллё, павінен сам накопліваць таксама",* — сказала старшыня праўлення Нацбанка **Надзея Ермакова.**

Яна канстатавала, што сёння складана гаварыць аб перспектывах зніжэння ставак па крэдытах на будаўніцтва і куплю жылля. Надзея Ермакова нагадала, што ў мінулым годзе "Беларусбанк", "Белаграпрамбанк" і "Белінвестбанк" выдавалі жыллёвыя крэдыты пад 16 працэнтаў, панеслі вялікія страты і былі вымушаны прыпыніць выдачу. "*Як толькі знізіцца цана рэсурсаў, тады можна выдаваць і больш танныя крэдыты. А цана рэсурсаў — гэта нашы ўклады. Пры двухзначнай інфляцыі цана па ўкладах павінна быць намнога большай, чым інфляцыя. Каб грамадзянін мог не проста зберагчы свае накапленні ў беларускіх рублях, але і атрымаць даход",* — растлумачыла кіраўнік Нацбанка.

---

ФОТАФАКТ

*У Мінску з'явіліся дзве скульптуры, прысвечаныя знамянальнай падзеі — атрыманню Мінскам у 1499 годзе Магдэбургскага права. На плошчы Свабоды цяпер ёсць скульптура войта (кіраўніка магістрата), які трымае ключ ад горада і каралеўскую грамату, у нагах войта — план Мінска XVI стагоддзя. А недалёка ад сцен ратушы ўсталяваны "Гарадскія шалі". На пастаменце скульптуры змешчана выява пячаткі мінскай ратушы з гербам горада.*





